## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 604*

*12 верасня 1996 г. г. Мінск*

**Аб устанаўленні выплат выпускнікам дзяржаўных педагагічных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, накіраваным на работу ва ўстановы адукацыі, размешчаныя ў зонах радыеактыўнага забруджвання**

У мэтах замацавання педагагічных кадраў ва ўстановах адукацыі, размешчаных у зонах радыеактыўнага забруджвання, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць штогадовыя выплаты выпускнікам дзяржаўных педагагічных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, накіраваным на работу ва ўстановы адукацыі, размешчаныя ў зоне наступнага адсялення і ў зоне з правам на адсяленне, у наступных памерах:

20 мінімальных заработных плат — пасля першага года работы;
25 мінімальных заработных плат — пасля другога года работы;
30 мінімальных заработных плат — пасля трэцяга года работы.

Вылічэнне гэтых выплат праводзіцца зыходзячы з памеру мінімальнай заработнай платы, які дзейнічае на момант набыцця названымі асобамі права на іх атрыманне.

Выплаты ажыццяўляюцца за кошт сродкаў, прадугледжаных у рэспубліканскім бюджэце на ліквідацыю наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

2. Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам фінансаў, Міністэрствам адукацыі і навукі распрацаваць і зацвердзіць парадак і ўмовы ажыццяўлення выплат выпускнікам дзяржаўных педагагічных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, накіраваным на работу ва ўстановы адукацыі, размешчаныя ў зонах радыеактыўнага забруджвання.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

## ГУМАНІТАРНА-ЭКАНАМІЧНЫ Ў САСТАВЕ МКА

**Прыемная вестка прыйшла нядаўна ў Гуманітарна-эканамічны недзяржаўны інстытут: ВНУ прынята калектыўным членам Міжнароднай кадравай акадэміі ЮНЕСКО і Савета Еўропы.**

У адпаведнасці з гэтым рашэннем рэктар ГЭНІ прафесар Аляксандр Алпееў стаў сапраўдным членам МКА. Перад гэтым з Мадрыда было паведамленне аб тым, што ён выбраны членам Савета Еўрапейскай асацыяцыі бізнесу і менеджменту.

Прыняцце ў МКА Гуманітарна-эканамічнага інстытута, першай і пакуль адзінай ВНУ рэспублікі, сведчыць аб прызнанні яе дасягненняў у галіне вышэйшай адукацыі. Тут на 7 факультэтах, дзе рыхтуюць спецыялістаў па самых сучасных спецыяльнасцях, на 11 амаль поўнасцю ўкамплектаваных кафедрах вучацца каля дзвюх тысяч студэнтаў. У інстытуце працуюць 25 дактароў навук і прафесараў, звыш 100 кандыдатаў навук.

Адчуваецца вялікі недахват падручнікаў па сучасных галінах ведаў, і супрацоўнікі інстытута часткова ўзялі вырашэнне гэтай праблемы на сябе. За апошні год імі падрыхтавана і выпушчана 16 падручнікаў і дапаможнікаў. Двума з іх — «Этыкай» і «Эстэтыкай» — зацікавіліся нямецкія вучоныя з універсітэта, што знаходзіцца ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, і выказалі жаданне передрукаваць іх у сябе.

Выпускнікі Гуманітарна-эканамічнага інстытута пасля прыняцця яго ў члены Міжнароднай кадравай акадэміі ЮНЕСКО і Савета Еўропы будуць атрымліваць у якасці асноўнага або дадатковага дыплом зарубежнага ўзору. Гэта значыць, што ён стане «канверсоўным». Выкладчыкам ГЭНІ пасля адпаведнай падрыхтоўкі будуць прысвойвацца навуковыя ступені дактароў навук з выдачай адпаведных сертыфікатаў.

**Васіль ФЕРАНЦ.**

## ТАПЕЛЬЦЫ, ВУЧЫЦЕСЯ ДАПАМАГАЦЬ САБЕ САМІ...

**Упершыню на Беларусі выйшаў з друку зборнік нарматыўных актаў па пытаннях кампенсацыі ўрону, нанесенага жыццю і здароўю грамадзян. Ён падрыхтаваны спецыялістамі Дзяржаўнай інспекцыі працы.**

Нягледзячы на тое, што першнаперш зборнік разлічаны на юрыстаў і наймальнікаў, відавочна, што не абыдуць яго ўвагай і так званыя простыя грамадзяне. Бо побач з заканадаўчымі і іншымі нарматыўнымі актамі, прынятымі Вярхоўным Саветам, Кабінетам Міністраў, Міністэрствам працы, а таксама Правіламі па ахове працы ў зборніку прыведзена практыка (у тым ліку і судовая) вырашэння пытанняў па выплаце аднаразовых кампенсацый і прадастаўленню льгот пацярпеўшым і членам сем'яў загінуўшых на вытворчасці. Апроч таго тут змешчаны макеты дакументаў (заяў, загадаў, іскавых заяў) па кампенсацыі панесеных на вытворчасці страт, а таксама спіс прафесіянальных захворванняў.

Словам, сумненняў у тым, што навінка акажацца карыснай для ўсіх, няма. Асабліва калі ўзгадаць вядомае: колькасць няшчасных выпадкаў на вытворчасці ў нашай краіне апошнім часам традыцыйна вагаецца ў межах 10—15 тысяч у год.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ПЛАСТЫКАВЫ ПРАЯЗНЫ «НАСТУПАЕ» НА ПАСАЖЫРА

**Увядзенне ў сталічным пасажырскім транспарце пластыкавых праязных выклікала ў мінчан неадназначную рэакцыю. Разгубленасць ля турнікетаў метро пасажыра, які прывык да традыцыйнага талончыка ці жэтона, зусім зразумелая. Асабліва калі магнітная картка «адмаўляецца» яго прапускаць. А ў кастрычніку колькасць незадаволеных новаўвядзеннем можа ўзрасці.**

Па рашэнню вытворчага ўпраўлення транспарту і сувязі, Мінгарвыканкома з гэтага месяца ў гарадскім транспарце ўводзіцца пластыкавы праязны на тры віды: аўтобус—тралейбус—метро. Трэба адзначыць, што гэта адзін з самых хадавых відаў праязных, які штомесяц набываюць 10—12 тысяч мінчан. Паралельнае хаджэнне аналагічных папяровых праязных з гэтага моманту будзе спынена. Так што выбіраць пасажыру ўжо не давядзецца.

У кіёсках «Саюздруку» шукаць новыя праязныя не мае сэнсу, таму што для яго рэалізацыі патрабуюцца ўстройствы перадпродажнай праверкі. Набыць іх можна будзе толькі ў касах метрапалітэна ці ў распаўсюджвальнікаў на станцыях метро.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ЛЕПШ ХУТКА ЕЗДЗІЦЬ, ЧЫМ ДОЎГА СТАЯЦЬ?

**Прыпаркаваць аўтамабіль у цэнтры сталіцы бясплатна ў хуткім часе стане практычна немагчыма.**

Паводле рашэння Мінгарвыканкома, у самы бліжэйшы час колькасць платных паркovак у горадзе значна павялічыцца: у першую чаргу гэта закране раён стадыёна «Дынама», вуліц Карла Маркса, Камсамольскай, Нямігі і інш. Паступова з цэнтра горада платныя паркоўкі распаўсюдзяцца і на «перыферыю».

Так што калі ў кагосьці ўзнікне вострая патрэба спыніцца ў цэнтральнай частцы сталіцы, то яму прыйдзецца аплаціць збор у памеры 5 тысяч рублёў. Як гаворыцца, спачатку добра падумай — пасля спыніся.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ЦЯПЕР У СТУДЭНТАЎ ЁСЦЬ СВОЙ «ВЕСНІК»

**На рынку маладзёжнай прэсы Беларусі папаўненне. «Студэнцкі веснік» — такую назву атрымала новая газета, заснавальнікам якой выступіла рэспубліканская Асацыяцыя міжнародных маладзёжных абменаў і турызму.**

Як сказана ў своеасаблівым рэдакцыйным «маніфесце», газета плануе інфармаваць свайго чытача аб наяўнасці працоўных месцаў на Беларусі і за мяжой, знаёміць з Кодэксам законаў аб працы і іншымі прававымі дакументамі, якія датычацца праблем моладзі, друкаваць парады прафесіянальных юрыстаў, сацыёлагаў і псіхолагаў, інфармаваць аб навучальных установах, а таксама адказваць на ўсе пытанні, якія выклікаюць цікавасць.

Наколькі ўсё гэта атрымаецца, пакажа, безумоўна, толькі час. А пакуль што калегам са «Студэнцкага весніка» хацелася б пажадаць хіба што ўдачы. І — ні пуха, ні пер'я!

**Сяргей ГРЫБ.**

## ХУТКА БУДЗЕ МОРА «КОЛЫ»

**Як ужо паведамлялі сродкі масавай інфармацыі, будаўніцтва вытворча-дыстрыб'ютарскага цэнтра СП «Кока-Кола Амаціл Беларусь» размесціцца на тэрыторыі калгаса імя Гастэла Мінскага раёна.**

Паводле слоў кампетэнтнага прадстаўніка сумеснага прадпрыемства, мяркуецца, што першая прадукцыя, выраблена на магутнасцях новага завода, з'явіцца ў продажы ў канцы будучага года. Беларускія напоі будуць рэалізоўвацца на айчынным рынку, дадала афіцыйная асоба.

Каменціруючы факт будаўніцтва прамысловага прадпрыемства на тэрыторыі калгаса імя Гастэла, яго старшыня Павел Нявесценка адзначыў, што гэта «дазволіць папярэдзіць каналізацыйную катастрофу сталіцы Беларусі» («Народная газета», 17 ліпеня 1996 г.). Па меркаванню старшыні Камітэта архітэктуры горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкома Аляксандра Чадовіча, размова ідзе аб удзеле СП «Кока-Кола Амаціл» у будаўніцтве ачышчальных збудаванняў для горада.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ЗЛАЧЫНЦАМ АКАЗАЎСЯ ГРАМАДЗЯНІН ГРЭЦЫІ

**Днямі ў Маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце звярнуўся начальнік чыгуначнай станцыі Гудагай, жыхар горада Маладзечна, і заявіў, што яго абакралі.**

Абакралі яго, што цікава, у электрапоездзе, які ішоў на Гудагай з Маладзечна. Невядомыя забралі наяўныя рэчы і грошы ў суме 21 мільён 500 тысяч рублёў. Аператыўна спрацавалі супрацоўнікі крымінальнага вышуку. За злачынства затрыманы грамадзянін Грэцыі і грамадзянін без пэўнага месца жыхарства і роду заняткаў (хутчэй за ўсё армянін).

**Пётр РАБКАВЕЦ.**
**Прэс-цэнтр МУС.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ХУТКА ЗАВЕРШЫЦЦА ДЭМІЛІТАРЫЗАЦЫЯ ГРОЗНАГА

Прэм'ер-міністр Расіі Чарнамырдзін заявіў, што пры неабходнасці асабіста возьме ўдзел у перамовах па ўрэгуляванню сітуацыі ў Чачні. Віктар Чарнамырдзін назваў нармальнымі прамежкавыя вынікі дзейнасці Аляксандра Лебедзя па ўрэгуляванню крызісу ў рэспубліцы. У пятніцу з Чачні адправіцца першы эшалон з расійскімі вайскоўцамі. Праз семвосем дзён завершыцца дэмілітарызацыя Грознага: з горада будуць выведзены 101-я брыгада МУС і чачэнскія атрады.

У сераду пачалася перадыслакацыя расійскіх войскаў з Чачні і фарміраванне сумесных праваахоўных органаў з удзелам абодвух бакоў.

### У БОСНІІ ЎСЕ ПРАБЛЕМЫ ВЫРАШАНЫ

На думку міністра абароны ЗША Пэры, у будучым годзе амерыканскім салдатам і іншым вайскоўцам з міжнароднага міратворчага кантынгенту не давядзецца вяртацца ў Боснію для папярэджання новых сутыкненняў. Падчас свайго выступлення ў сенаце ЗША Пэры заявіў, што ўсеагульныя выбары, якія адбыліся напрыканцы мінулага тыдня, даюць дастаткова падстаў, каб меркаваць, што міратворчы кантынгент сіл НАТО зможа пакінуць Боснію ў канцы гэтага года. Учора дзяржсакратар ЗША Крыстафер павіншаваў Ілію Ізетбегавіча з перамогай на выбарах. Ізетбегавіч заявіў, што яго першачарговай мэтай з'яўляецца аб'яднанне краіны і усталяванне справядлівасці.

### АВАРЫЯ АБО ВАЕННАЯ ПРАВАКАЦЫЯ?

Сілы бяспекі Паўднёвай Карэі застрэлілі яшчэ семярых паўночных карэйцаў, якія пранікլі ў сераду ноччу на тэрыторыю Паўднёвай Карэі пасля таго, як іх лодка села на мель. У сераду былі знойдзены целы 11 поўночных карэйцаў, якія ўчынілі, відавочна, масавае самазабойства. Дванаццаты быў затрыманы і даў паказанні. Паводле яго слоў, з падводнай лодкі на тэрыторыю Паўднёвай Карэі пранік атрад прыкладна з 20 чалавек. Аднак улады лічаць, што экіпаж падлодкі мог складацца і з 27 чалавек. Пошукі працягваюцца. Прэзідэнт Паўднёвай Карэі Кім Ён Сам ахарактарызаваў інцыдэнт як ваенную правакацыю.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Нават тытул «Міс Сусвету», атрыманы ў 1994 годзе прадстаўніцай Індыі Айшварняй Рай, не змякчыў гневу яе суайчынніц, якія выступаюць супраць правядзення міжнародных конкурсаў прыгажосці. У сувязі з тым, што ў лістападзе гэтага года такі конкурс упершыню пройдзе ў Індыі, 15 індыйскіх феміністак пагражаюць актам самаспалення ў імя «выратавання індыйскай культуры».

**Рэйтэр.**

Загадка смерці Эдгара По разгадана праз 147 гадоў. Прафесар Мерылендскага універсітэта Майкл Белітэз абгрунтаваў адну з версій, якую прапанавалі тады медыцынскія аўтарытэты. Прааналізаваўшы ўсе даныя, Белітэз паставіў дыягназ: шаленства, якое ўзнікла ў выніку ўкусу жывёлы, хутчэй за ўсё, — сабакі. Аднак, паколькі навука не мае даных анатаміраваныя, якога, відавочна, не было, меркаванне медыкаў застаецца не больш чым меркаваннем. Міфы бываюць калі не больш праўдзівымі, дык больш даўгавечнымі, чым навуковыя дыягназы.

**«Труд».**

Фермер Аляксандр Арлоўскі быў нямала здзіўлены, калі маці, якая жыве за 5 кіламетраў, прыгнала з сяла Волкава на яго падворак рагулю, каб злучыць з племянным быком. Сын напомніў, што ў калгасе імя Леніна, дзе працуе маці, хапае сваіх быкоў. Расплакаўшыся, старая растлумачыла, што калгаснае кіраўніцтва не дапусціла яе карову да грамадскага быка. Прычынай жа адмовы назвалі тое, што на прэзідэнцкіх выбарах калгасніца галасавала за Ельцына. Тым жывёлам, чые гаспадары не падтрымалі камуністаў, канторскі люд вырашыў адмовіць у размнажэнні.

**ЕАН.**

## «МІНСКІ СЕМЕСТР» СТУДЭНТАЎ ФРГ

У самы разгар заняткаў вялікая група студэнтаў германскіх універсітэтаў пакінула аўдыторы і прыехала ў Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр. З дапамогай яго спецыялістаў яны наведалі Нясвіж і Мірскі замак, Хатынь і калгас імя Маркса Валожынскага раёна, мінскі дзіцячы садок № 532 і рэдакцыю «Радыё 101,2», Чырвоны касцёл і дзевятую бальніцу. Студэнты Германіі сустрэліся з лідэрамі вядучых партый, вучонымі, дэпутатамі, членамі Канстытуцыйнага суда, народным пісьменнікам Васілём Быкавым, студэнтамі універсітэта культуры, наведалі сем'і...

Што гэта? Нежаданне вучыцца ці які чарговы студэнцкі капрыз? Ні першае і ні другое.

Як аказалася, гэта група студэнтаў вядучых універсітэтаў Германіі, якая паглыблена цікавіцца праблемамі Усходняй Еўропы і СНД, у прыватнасці тымі працэсамі, якія адбываюцца ў Беларусі і Літве. А калі так, для іх і арганізавана паездка сюды. Яны 10 дзён правялі ў Беларусі і выехалі ў Літву. У якасці заліку стануць іх грунтоўныя даклады ў сваіх універсітэтах аб становішчы ў Беларусі і Літве.

Ці змогуць мінскія студэнты, якія цікавяцца, скажам, Германіяй ці ЗША, вось гэтак жа выехаць у гэтыя краіны і пазнаёміцца з іх жыццём?

**Алег ДРАБОВІЧ.**

## БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯТА Ў СУПОЛКУ ПАЛІЦЭЙСКІХ

У горадзе Мідэльфарт (Данія) знаходзілася дэлегацыя Беларускага фізкультурна-спартыўнага таварыства «Дынама» і рэспубліканскага МУС на чале з выконваючым абавязкі намесніка міністра палкоўнікам Сяргеем Жалняровічам.

Нашы суайчыннікі прынялі ўдзел у XXVI кангрэсе Еўрапейскага спартыўнага саюза паліцэйскіх (USPE). Да станоўчых вынікаў чатырохдзённай працы можна, безумоўна, аднесці прадастаўленне беларускай міліцыі пастаяннага членства ў вышэйназванай арганізацыі, што дазволіць удзельнічаць у міжнародных спаборніцтвах пад эгідай USPE, узняць прэстыж службова-прыкладных відаў спорту і ўдасканаліць прафесіянальнае майстэрства ахоўнікаў правапарадку рэспублікі.

**Сяргей ХРЫПАЧ,**
**прэс-цэнтр МУС.**

## ПАЛОВУ НАКОПЛЕНАГА ЦЭЗІЮ Ў АРГАНІЗМЕ ЮНЫЯ ЧАРНОБЫЛЬЦЫ «ПАКІНУЛІ» Ў ІТАЛІІ

Каля пяці тысяч дзяцей ва ўзросце ад 7 да 13 гадоў з пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы рэгіёнаў Беларусі, а таксама Украіны і Расіі пабывалі гэтым летам у Італіі. Адпачынак і лячэнне юных чарнобыльцаў арганізавала італьянская грамадская экалагічная арганізацыя «Легамб'ентэ» ў рамках праграмы, якая атрымала назву «Праект Чарнобыль». Сёлета было адзначана трохгоддзе гэтай гуманітарнай ініцыятывы.

«Праект Чарнобыль» знайшоў шырокі водгук на Апенінах. Тысячы італьянскіх сем'яў з многіх абласцей краіны заявілі аб гатоўнасці прыняць у сябе гасцей. За месяц знаходжання ў Італіі дзеці, якія падвергліся ўздзеянню радыяцыі, праходзілі спецыяльны аздараўленчы курс, заснаваны на выкарыстанні экалагічна чыстых прадуктаў.

Паводле ацэнак арганізатараў праекта, такое лячэнне дае магчымасць вывесці з дзіцячага арганізма ад 30 да 50 працэнтаў накопленага ў ім радыеактыўнага цэзію. Гэта, у прыватнасці, пацвярджаюць і медыцынскія абследаванні дзяцей, праведзеныя пасля іх прыбыцця ў Італію і на заканчэнні аздараўленчага курса.

**БЕЛТА.**

## СІСТЭМА КАНТРОЛЮ РЭШТКАЎ ЯДЗЕРНАГА ПАЛІВА Ў «САРКАФАГУ» ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС СВЕДЧЫЦЬ АБ МАГЧЫМАСЦІ ЎЗНІКНЕННЯ ЛАНЦУГОВАЙ ЯДЗЕРНАЙ РЭАКЦЫІ

16 верасня, у 18.20, тры прыборы з дзесяці ўстаноўленых у адным з памяшканняў «саркафага» паказалі павышэнне нейтроннага патоку, што можа сведчыць аб узнікненні ланцуговай рэакцыі ад рэшткаў ядзернага паліва.

Як паведаміла БелаПАН украінскае інфармагенцтва УНІАН са спасылкай на інфармацыю з адміністрацыі ядзернага рэгулявання Мінэкабяспекі Украіны, у 19.04 паказанні прыбораў вярнуліся да нармальных велічынь.

12 верасня быў зафіксаваны яшчэ адзін выпадак змянення паказанняў сістэмы кантролю «саркафага». Тады павышэнне нейтроннага патоку паказалі два з дзесяці прыбораў у другім памяшканні.

Па абодвух выпадках на станцыі створаны камісіі, якія будуць расследаваць прычыны здарэння. Папярэдне спецыялісты ЧАЭС схіляюцца да таго, што паказанні прыбораў змяніліся на кароткі час з-за збояў у сістэме кантролю.

**УНІАН — БелаПАН.**

## 36,6°

## Табліца спалучэння прадуктаў пры раздзельным харчаванні

*НЕЛЬГА* (Бялковая група — Вугляводная група)
*МОЖНА* (Бялковая група — Нейтральная група)
*МОЖНА* (Нейтральная група — Вугляводная група)

| Бялковая група | Нейтральная група | Вугляводная група |
|---|---|---|
| Мяса і мясныя вырабы (каўбаса — у невялікай колькасці)<br>Рыба, малюскі, ракападобныя<br>Малако<br>Яйкі<br>Сыры з тлустасцю 50 працэнтаў (эдамскі, пармезан)<br>Кансерваваныя памідоры<br>Любыя ягады (акрамя чарніц)<br>Садавіна з семачкамі (яблыкі, грушы, дыня, кавун)<br>Костачкавыя (абрыкосы, слівы, персікі і г. д.)<br>Дзікарослыя плады (шыпшына, глог)<br>Абляпіха<br>Цытрусавыя<br>Экзатычная садавіна (акрамя бананаў): ківі, манга, ананас<br>Напоі: фруктовы чай, травяныя настоі, фруктовыя сокі, сухія і паўсухія віны, шампанскае (алкагольныя напоі — не больш як бакал)<br>Соя | Тлушчы: любы алей і масла, дыетычны маргарын<br>Усе кісламалочныя прадукты: тварог, смятана, сыракваша, кефір, ёгурт<br>Вяршкі<br>Нятлусты сыр<br>Белыя і расольныя сыры ў вымачаным выглядзе (брынза, авечы, асецінскі, сулугуні)<br>Квашаная капуста<br>Грыбы<br>Зяленіна, прыправы<br>Свежыя памідоры<br>Любыя арэхі (акрамя арахісу)<br>Семачкі (кунжут, сланечнікавыя, гарбузовыя)<br>Свежыя чарніцы<br>Разынкі<br>Аліўкі, масліны<br>Дрожджы<br>Усе жэлеўтваральныя рэчывы (жэлацін, агар-агар)<br>Напоі: пшанічная гарэлка (вельмі нямнога) | Крупы<br>Хлеб і хлебабулачныя вырабы, пераважна з мукі грубага памолу, з вотрубямі<br>Бульба, рэдзька, тапінамбур<br>Бананы, курага, сухафрукты, інжыр, свежыя фінікі, мяккія салодкія яблыкі<br>Мёд<br>Бульбяны крухмал<br>Піва |

*ЗАЎВАГІ:*

**1.** Для паніроўкі скарыстайце не сухары і муку, а кунжутнае семя, молаты міндаль або арэхі.

**2.** Соусы для салатаў з прадуктаў, багатых бялкамі, гатуйце на алеі, вяршках, дабаўляючы зеленіва і лімонны сок.

**3.** Соусы для страў, багатых вугляводамі, рабіце з кісламалочных прадуктаў.

*Часопіс «Здоровье».*

*НЕ РЭКАМЕНДУЮЦЦА:*

**1.** Рафінаваныя прадукты (цукар, вырабы з белай мукі, салодкая і здобная выпечка, макароны ў вялікай колькасці, шліфаваны рыс).
**2.** Канцэнтраты і кансервы.
**3.** Бабовыя — зялёны гарошак, фасоля сычавіца.
**4.** Свініна.
**5.** Сыры яечны бялок.
**6.** Гатовы прамысловы маянэз, звычайныя гатункі маргарыну.
**7.** Чорны чай, кава, какава.

## ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА*

**ГАДАВЫ КОНКУРС СКЛАДАННЯ**

**Заданне № 19**

*Уладзімір АЛЯКСАНДРАЎ (Расія)*

**Белыя:** Крg7, Фс3, Се4, Сf6, Кf4 (5).

**Чорныя:** Кра2, Фс1, Се8, пп: а5, с2, с4, g6 (7).

Мат за 3 хады.

**Заданне № 20**

*Алег Глушынскі (Брэст)*

**Белыя:** Крb1, Сb3, Се3, Кс7, Кh6; пп: b6, d3, d6, f2, f6 (10).

**Чорныя:** Кре5, пп: b4, d7, h7 (4).

Мат за 3 хады.

**ЗВЕРЦЕ РАШЭННІ**

Заданні №№7—14 гадавога конкурсу складання развязваюцца наступным чынам:

**№ 7. В. Іваноў.** 1. Сf5! 1. е5? Кd4! 1. ed5? Сf4!

**№ 8. В. Іваноў.** 1. Крg5! 2. Фh6+, 1... Ке4+, Кf3+ 2. Л:е4, К:f3.

**№ 9. В. Волчак.** 1. Лd3! 1. Фа8? Кb7! 1. Фh7? Кg5!

**№ 10. В. Ваўнейка.** 1. Сf4! 2. Кf6+.

1... С:f4, С:с3, Ф:g5 2. С4+, К:с3+, К:g5.

**№ 11. А. Петрусенка.** Па аўтару: 1. Фh3 Кg4 2. К:g4 Крg6 3. Крh4 Кf5х, але задача мае шмат пабочных рашэнняў. Наш удзельнік конкурсу рашэнняў мінчанін Сяргей Гурыновіч прапануе наступную папраўку — дабавіць белую пешку на поле f4.

**№ 12. А. Петрусенка.** 1. Са4 Кс4 2. b5 Ке5 3. Крd2 Крс5 4. Крс3 Крb5 5. Крb4 Кра7 6. Кра5 Кс6х.

**№ 13. В. Ваўнейка.** 1. Са7!

**№ 14. М. Бельчыкаў.** 1. Сh2! 2. Кс7х.

Адказы на заданні даслалі ўдзельнікі гадавога конкурсу рашэнняў: А. Страх (Маладзечна), В. Каляда (Слуцкі раён), А. Кісля (Гродзенская вобласць), С. Гурыновіч (Мінск) і іншыя.

**ДЗВЕ МУЗЫ**

Нашы складальнікі Вадзім і Дзмітрый Жылко выдалі брашуру «Дзве музы» (шахматныя задачы і вершы), у якой змешчаны 16 твораў Вадзіма і 38 твораў яго брата Дзмітрыя. Вершы — Вадзіма. Цана 1 экземпляра — 12 тысяч рублёў. Тыраж 200 экз. МП «Контур». Мінск.

Калі хочаце набыць брашуру, аплату дасылайце паштовым пераводам на адрас: 225650, г. Лунінец, Брэсцкая вобл., вул. Чырвонаармейская, 23/2, Жылко Вадзіму Вітальевічу.

## СПОРТ-ЭКСПРЭС

### ЯНОЎСКІ ПРАЦЯГВАЕ ЗДЗІЎЛЯЦЬ

**Восем гадоў прайшло з таго часу, як віцяблянін Вячаслаў Яноўскі стаў алімпійскім чэмпіёнам у Сеуле, але пальчаткі вешаць на цвік ён яшчэ не збіраецца.**

Праўда, зараз Яноўскі выступае як прафесіянал і абараняе колеры аднаго з расійскіх клубаў.

Нядаўна ва ўкраінскім горадзе Фаставе беларускі баксёр правёў 12-раундавы паядынак за званне Пан-амерыканскай баксёрскай асацыяцыі (РАВА).

Сапернікам Вячаслава быў уладальнік гэтага тытула казах Бахіджан Аманбаеў, які ў рэйтынгу Сусветнай баксёрскай асацыяцыі (WBA) займаў 11-е месца. Праўда, гэты фактар зусім не засмуціў Яноўскага і ён выдатна адбаксіраваў усе 12 раўндаў, за што суддзі па ачках аддалі яму перамогу.

Бліжэйшыя планы Яноўскага пакуль не вызначаны. Магчыма, 13 кастрычніка яго можна будзе ўбачыць у Барысаве, дзе мяркуецца правесці міжнародную сустрэчу з удзелам вядомых прафесіяналаў баксёраў і кік-баксёраў. Усё будзе залежаць, відаць, ад велічыні ганарару, які прапануюць Яноўскаму арганізатары турніру.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### А КАЛІ Б БЫЛІ ПОЎНЫМ САСТАВАМ...

**У прыгарадзе англійскай сталіцы прайшоў чарговы чэмпіянат Еўропы па водналыжнаму спорту сярод юніёраў (узрост — да 21 года).**

Каманды 23 краін кантынента прынялі ўдзел у гэтых папулярных спаборніцтвах. Сярод іх былі такія гранды водных лыжаў, як зборныя гаспадароў чэмпіянату, а таксама Францыі, Італіі, Грэцыі, Аўстрыі, Расіі, Германіі, Нідэрландаў, Швецыі, Чэхіі, Бельгіі... Выступала на спаборніцтвах і каманда Рэспублікі Беларусь: праўда, з-за абмежаваных фінансавых магчымасцей нашу краіну прадстаўлялі ўсяго тры спартсмены з шасці.

Беларусь у водналыжным спорце — краіна вядомая і аўтарытэтная. Усяго некалькі лічбаў і фактаў. Адзін толькі спартыўны клуб «Алімпія», які 30 гадоў назад стварыў і да сённяшняга дня ўзначальвае заслужаны трэнер СССР і Беларусі Віктар Наважылаў, даў свету дзесяткі чэмпіёнаў і рэкардсменаў, якія заваявалі на сусветных і еўрапейскіх чэмпіянатах 70(!) узнагарод. Шэсць апошніх гадоў беларуская зборная нязменна выйграе Кубак Еўропы.

На гэты раз наша юніёрская каманда выступіла ніжэй за свае магчымасці. Па-першае, адсутнасць поўнага саставу зборнай вымушала спартсменаў дзейнічаць разважліва: калі — асцярожна, а калі — і рызыкоўна... Па-другое, за плячыма іх быў цяжкі і напружаны сезон. Па-трэцяе, суддзі вельмі ўжо сімпатызавалі гаспадарам — англічанам...

І тым не менш, выхаванцы В. Наважылава не засталіся без медалёў і на гэты раз. Крыху ўступіўшы толькі гаспадыням чэмпіянату — англійскім спартсменкам Сары Гацці і Мэры Томс, бронзавым прызёрам стала Алеся Кохан у фігурным катанні. Блізкай да ўзнагароды была і Ірына Турэц у скачках з трампліна, аднак у фінале яна атрымала цяжкую траўму і выбыла з барацьбы: у выніку Іра толькі пятая. Трэці наш удзельнік — Максім Дзікі па ўстаноўцы трэнера рызыкаваў, імкнучыся паказаць усё, на што здатны, і гэта, натуральна, прыводзіла да зрываў: адзін у полі не воін... Лепшы яго паказчык у фігурным катанні — усяго толькі 11-ы сярод 27 удзельнікаў.

Сярод 23 каманд-удзельніц зборная Беларусі заняла 6-е месца. Для 50-працэнтнага саставу каманды гэта не такі ўжо і дрэнны вынік.

(Аб праблемах і пытаннях, што стаяць перад беларускай школай водналыжнага спорту, аб дасягненнях і перспектывах яго мы раскажам больш падрабязна ў адным з бліжэйшых нумароў «Звязды».)

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

### БЕЛАРУСЬ «НАКРЫЛА» ФІЛІПІНЫ

**У Ерэване працягваецца XXXII шахматная алімпіяда.**

Прайшоў трэці тур, які таксама стаў паспяховым для беларускіх гросмайстраў. Мужчынская зборная ўпэўнена абыграла зборную Філіпін — 3:1. Перамогі дабіліся Аляксандраў і Дыдышка, а Гельфанд і Мачалаў звялі свае паядынкі ўнічыю.

Жаночая каманда Беларусі — Заяц, Лагвілава, Сарокіна — сустракалася з філіпінкамі і выйграла «ўсухую» — 3:0.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## Чырвонаму Крыжу — 75 гадоў

**У верасні гэтага года Беларускае Таварыства Чырвонага Крыжа адзначае сваё 75-годдзе.**

На сустрэчы з журналістамі віцэ-прэзідэнт таварыства Зінаіда Паўловіч расказала пра тое, у якіх умовах і па якіх напрамках працуе сёння Чырвоны Крыж.

Асноўная праграма зараз — гэта служба міласэрнасці, дапамога адзінокім старым людзям. Ствараюцца цэнтры медыка-сацыяльнай дапамогі (іх ужо 113 па Беларусі), зусім новы праект — цэнтр па догляду за цяжкахворымі невылечнымі старымі. Акрамя гэтага, з 1986 года вядзецца Чарнобыльская праграма — матэрыяльная дапамога перасяленцам, будаўніцтва медцэнтраў, аздараўленне дзяцей, хворых на рак.

У 1993 годзе Чырвоны Крыж стварыў службу выратавання ў экстрэмальных сітуацыях, якая ўжо зараз паказала, што існуе яна не проста так і мае дастаткова высокі ўзровень падрыхтоўкі. З гэтага года пачынаецца комплексная праграма медыка-санітарнай падрыхтоўкі навучэнцаў. І, вядома ж, застаюцца старыя, традыцыйныя праграмы, як, напрыклад, донарства (з 1936 года) і пошук сваякоў, сяброў ці месцаў іх пахавання (з 1914 года).

Сёння Беларускі Чырвоны Крыж разгарнуў шырокую міжнародную дзейнасць. Нам дапамагае Міжнародны рух Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, асабліва цеснае супрацоўніцтва — з Германіяй, Францыяй, Японіяй, Галандыяй. Як адзначыла Зінаіда Паўловіч, «цяпер мы ўжо не прасіцелі, а партнёры, хоць і нераўнапраўныя».

**Яна САВІЦКАЯ.**

## Праз год у БДУ з'явяцца бакалаўры

**Нарэшце абраны дэкан філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Ім стала доктар педагагічных навук, прафесар Ларыса Аляксандраўна Мурына. Дагэтуль Ларыса Мурына ўзначальвала кафедру рыторыкі і методыкі выкладання рускай мовы і літаратуры.**

Між іншым, выбар зроблены зусім не выпадкова. Справа ў тым, што сёлета на факультэце будзе ўведзена новая сістэма навучання, адной з распрацоўшчыкаў якой і была цяперашні дэкан. Сутнасць пераўтварэнняў у наступным: з гэтага часу навучанне студэнтаў умоўна падзеліцца на два этапы. Па выніках першага (4 курсаў) выпускнікі атрымаюць дыплом аб вышэйшай адукацыі з прысваеннем кваліфікацыі «філолаг-бакалаўр», якая, зрэшты, не дае права на выкладанне. Далей навучанне працягнуць толькі самыя здольныя, якія апроч кваліфікацыі «філолаг-магістр» і права быць выкладчыкам змогуць набыць таксама другую спецыяльнасць.

**Сяргей ГРЫБ.**

*КРЫМІНАЛ*

## Часу для пакаяння будзе дастаткова

Звыш 2 тысяч долараў, 3 мільёны рублёў і даразахавальніцу ўкралі двое «гастралёраў»-магілёўчан з прыбудовы да касцёла ў адной з вёсак Воранаўскага раёна. У плябанію зладзеі пранікլі пад раніцу. Для гэтага ім не прыйшлося нават нешта ўзломваць, бо дзверы былі адчынены...

У гэты час святар і яго сваякі займаліся ліквідацыяй пажару: якраз на двары загарэўся хлеў. Як потым высветлілася, не выпадкова. Зрабіўшы сваю чорную справу, зладзеі накіраваліся да выхаду, але на парозе сутыкнуліся з братам ксяндза.

Пырснуўшы яму ў твар газам, рабаўнікі, якія былі ў масках, кінуліся наўцёкі. Ды толькі нядоўга гулялі яны на волі. Праз дзве гадзіны за тры кіламетры ад месца здарэння нарад воранаўскай міліцыі заўважыў уцекачоў на ўскрайку лесу. Пасля дагляду сумкі і кішэняў затрыманых ніякіх сумненняў адносна «аўтараў» абрабавання не засталося.

## А ў мяшку была трава

Першай забіла трывогу аб знікненні 73-гадовага жыхара Скідаля яго жонка. Надвячоркам той паехаў на веласіпедзе да няблізкага балотца каля вёскі Каўшова, дзе раз-пораз збіраў раску — траву, карысную для кармлення качак. Але дамоў стары не вярнуўся ні вечарам, ні праз суткі. Актыўныя пошукі ў раёне мяркуемага знаходжання гэтага чалавека дазволілі аператыўнай групе спачатку знайсці ў вадаёме непадалёк ад берага веласіпед і мяшок з травой, а потым побач у балотцы і труп гаспадара.

Па падазрэнню ва ўчыненым злачынстве затрыманы фермер з мясцовай вёскі, палеткі якога і падзяляла невялічкая рачулка з балотцам. Верагодна, стары трапіў пад гарачую руку фермера, у якога нехта пастаянна капаў на полі бульбу.

**Георгій СЫСОЙ,**
**прэс-цэнтр Гродзенскага УУС.**

## Па такіх правілах лепш не гуляць

**«Крымінальныя элементы» працягваюць «трушчыць» машыны вядомых спартсменаў.**

Не паспелі сціхнуць спрэчкі з нагоды «знойдуць ці не знойдуць эксклюзіўны «Ягуар» футбаліста Аляксандра Мятліцкага?» (па ацэнкам спецыялістаў, машына каштуе каля 100 тысяч долараў), які ў яго ўкралі адразу ж па прыездзе спартсмена дамоў з Аўстрыі, як у сталіцы Беларусі стаў ахвярай хакейны галкіпер зборнай Расіі і канадскага клуба «Вініпег Джэтс» Мікалай Хабібулін. «Мерседэс» расіяніна, які заскочыў падчас адпачынку на некалькі дзён да жонкі, знік гэтак жа таямніча, як... і быў знойдзены. Бо знайшоў яго сам гаспадар на стаянцы аўтамашын. Дзе ж зараз «гарцуе» чырвоны «Ягуар» Мятліцкага, вядома, бадай што, толькі самім угоншчыкам.

## Удар ніжэй пояса

**Неаднаразовы чэмпіён свету па кікбоксінгу Уладзімір Задзіран, асуджаны ў 93-м на 5 гадоў пазбаўлення волі за «рэкет», наўрад ці «дацягне» свой тэрмін у калоніі.**

Зараз экс-спартсмен пераведзены на абследаванне з магілёўскай калоніі ў мінскі турэмны шпіталь, дзе ён яшчэ прабудзе некалькі дзён. Як лічаць медыкі, старыя спартыўныя траўмы патрабуюць таго, каб сёння Задзірану была зроблена тэрміновая аперацыя на назе. На жаль, шпітальныя ўмовы дазваляюць аб гэтым толькі марыць.

## Ці адсудзяць у хакеіста кватэру?

**Да скандалу дайшла сітуацыя вакол варатара мінскага хакейнага клуба «Цівалі» і зборнай Беларусі Аляксандра Гаўрылёнка.**

Хакейнае таварыства «Дынама» падало на клуб і хакеіста судовы іск, у якім патрабуе вяртання службовай кватэры, «прыхватызаванай» падчас акцыяніравання «Цівалі». Па словах прэзідэнта клуба Ігара Макаеда, гэту справу яны выйграюць, бо дынамаўская кватэра была аддадзена Гаўрылёнку на законных падставах. А як там вырашыць суд?

**Алесь СІВЫ.**

## ВІНШАВАННІ

*Любая мамачка, **Марыя Захараўна Літвінава!** Віншуем з днём нараджэння. Заўсёды заставайцеся здаровай, радаснай, шчаслівай.*

**Муж, сыны, нявестка.**

*Каханую жонку і мамачку віншуем з днём нараджэння. Здароўя, шчасця табе, шчырага кахання.*

**Сям'я Кастусікаў.**

*Ад усёй душы і шчырага сэрца віншую дарагую, любую жонку **Агафію Аляксееўну Тарбякову** з днём нараджэння.*

*Жадаю моцнага здароўя, шчасця і мірнага неба.*

**Муж.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння **Тамару Васільеўну Асташонак.***

*Жадаем кветкай заставацца на ўсё жыццё, шчаслівай будзь на век і ў гэты дзень.*

**Бацькі, сёстры, муж.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.50 | 19.15 | 12.25 |
| Віцебск – | 6.40 | 19.06 | 12.26 |
| Магілёў – | 6.39 | 19.05 | 12.26 |
| Гомель – | 6.39 | 18.59 | 12.20 |
| Гродна – | 7.07 | 19.28 | 12.21 |
| Брэст – | 7.07 | 19.31 | 12.24 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 20 верасня**

### ІМЯНІНЫ

**Пр.** Івана, Макарыя, Серапіёна, Лукі

**К.** Эўзэпіі

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 9—11, Мінску, Гомелі — 10—12, Гродне — 11—13, Брэсце — 12—14 градусаў.

У наступныя двое сутак захаваецца такое ж надвор'е, уначы на значнай частцы тэрыторыі замаразкі да 0 — мінус 4, удзень — 10—15 градусаў цяпла.

